# З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ

## У ПАРАФІІ СЬВ. СПАСА Ў БРАДФОРД

У нядзелю 5-га ліпеня сёлета Парафіяне Царквы сьв. Спаса ў Брадфардзе адзначылі 80-я ўгодкі нараджэньня Найпачэсьнейшага Ўладыкі Андрэя, Мітрапаліта Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Урачыстую Божую Службу ў Царкве Сэйнт Чадс пры Толлер Лэйн Брадфорд адслужыў Мітр. Прат. а. Янка Абабурко, Настаяцель БАПЦ ў Вялікай Брытаніі.

Пасьля Багаслужбы ў часе казаньня Мітр. Прат. а. Янка паведаміў вернікаў, што 3-га ліпеня споўнілася 80 год жыцьця й 30 год цяжкое й цярністае працы на шляху рэлігійным і грамадзкім нашаму Найпачэсьнейшаму *Мітрапаліту Андрэю*, Першагерарху БАПЦ. На супольным Малебні за жыцьцё й здароўе нашага дарагога Ўладыкі вернікі гучна прапялі Многія Лета для юбілянта.

### Абед Удзячнасьці

У гэтую-ж самую нядзелю па Багаслужбе, стараньнем Парафіяльнае Рады Прыходу сьв. Спаса ў Брадфорд, у рэстаране Украінскага Клюбу быў зладжаны абед удзячнасьці ў гонар і пашану 80-х угодкаў нараджаньня Ўладыкі Андрэя.

На пачатку сп. Янка Калбаса, сакратар Рады БАПЦ ў Вялікай Брытаніі, прывітаў прысутных на абедзе й прачытаў кароткі жыцьцяпіс Мітрапаліта Андрэя. Пазьней былі прачытаныя прывітальныя лісты ад Парафіяльнае Рады Прыходу сьв. Спаса, ад Гуртка Васілька, ад Беларускае Незалежнае Думкі й ад сп. К. Глінскага з Лёндану.

Супольным прапяяньнем Многія Лета прысутныя паднялі тост за здароўе Юбілянта – Мітрапаліта Андрэя, ды пры смачным абедзе й пасьля яго правялі шмат вясёлых гутарак на тэмы зьвязаныя з прагрэсам БАПЦ і ейным ажыцьцяўленьні ды цяжкімі на чужыне праблемамі.

Дзякуючы Ўсемагутнаму Богу мы, Беларусы, маем сваю *Мітраполію* якую ўзначальвае Мітрапаліт Андрэй Якому яшчэ раз жадаем ад шчырага сэрца здароўя на шматлікія годы! Дай і дапамажы Божа!

*Брадфорд, Ліпень 1981*
*– Янка КРУШЫНА*



20-га верасьня, 1981 г., пасьля ўрачыстае Архірэйскае Багаслужбы ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Мітрапаліт Андрэй узнагароджвае Протапрасьвіцера а. Васіля Кендыша Сьв. Крыжыкам асьвячаным на Сьвятой Зямлі Ерусалімскай і адтуль перасланым для а. Васіля праз Мітр. Прат. а. Карпа Стар, прадстаўніка БАПЦ ў Ерусаліме. Па правым боку Мітрапаліта, а. Карп; па левым, Ул. Ізяслаў.

## НА САБОРЫ СЭРБСКАЕ ЦАРКВЫ

Сабор Сэрбскае Праваслаўнае Вольнае Царквы на Амэрыку й Канаду, адбыўся ў днях 30 верасьня й 1–2 кастрычніка сёлета ў новапабудаванай прыгожай залі пры Царкве Сьв. Савы на Вілінгс Род, Бродвэй, Огаё.

На Сабор былі запрошаны ад Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне Мітрапаліт Андрэй і Вікарны Япіскап Ізяслаў.

Пасьля Малебна, нарады Сабору адчыніў правячы Япіскап Ірыней малітваю „Цару Нябесны" й адразу пасьля адсьпяваньня малітвы, Уладыка Ірыней прасіў прысутных Герархаў БАПЦ, Мітрапаліта Андрэя й Япіскапа Ізяслава прывітаць Сабор.

Ад імя Сабору Япіскапаў, Кансысторыі й вернікаў БАПЦ, беларускія Архіпастыры вітаючы казалі: „Другі Сабор Сэрбскае Праваслаўнае Вольнае Царквы трэба ўважаць за надзвычайную падзею ў жыцьці Вашае Сэрбскае Царквы ў вольным сьвеце, якая збагачвае душы Вашых людзей вельмікаштоўнымі духовымі скарбамі.

„Падзяляем Вашу радасьць з вялікіх асягненьняў у разбудове царкоўна-рэлігійнае й культурна-асьветнае дзейнасьці. Лёс нашых царкваў як на чужыне, так і на Бацькаўшчыне аднолькавы, а таму мы, як у рэлігійнай, так і нацыянальнай галіне павінны працаваць супольна аж да часу вызваленьня нашых народаў ад бязбожнае ўлады, чаго мы Вам ад душы жадаем."

Словы гэтыя былі радасна ўспрынятыя прысутным духавенствам і вернікамі.

На другі дзень прысутных на Саборы віталі Архіпастыры ад грэцкага духавенства.

## ЗЬМЕНА Ў ПАРАФІІ Б.А.П.Ц. Ў ТАРОНТО

Згодна паведамленьня Кансысторыі БАПЦ з дня 14 кастрычніка 1981 году, кіруючы япіскап Эўрапэйскай Епархіі БАПЦ, Мітрапаліт Андрэй, часова перадаў Парафію Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта на духовую апеку Ўладыку Япіскапу Ізяславу.

Гэтая акцыя была выклікана адсутнасьцяй духоўнага апякуна ў канадыйскай парафіі БАПЦ з прычыны забароны служэньня Ўладыку Мікалаю Саборам Япіскапаў БАПЦ з дня 16 травеня 1981 г.

У іншай справе, Вярхоўны Суд у Ню Ёрку сваім загадам падпісаным 23 верасьня 1981 г., таксама забараніў Архіяпіскапу Мікалаю ўмешвацца ў Божыя Службы (служыць) ў Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

# Аб Закалотах *(працяг з 5-й бачынкі)*

насьць усіх Япіскапаў на Сэсіі Сабору Япіскапаў ёсьць абавязкаваю, дык чаму-ж Ул. Мікалай не лічыў сваім абавязкам зьявіцца на нараду Рады БАПЦ і на Сэсію Сабору Япіскапаў, дзе мог выказаць свае думкі й навет супраціў калі-б для яго былі пастаўлены неправідловыя абвінавачаньні? Аднак Ул. Мікалай на гэтыя паседжаньні не зьявіўся, а хоча дыктатарскім спосабам правордзіць сваю фікцыйную ідэю для кіраваньня БАПЦарквою.

(8) Для паразуменьня й ліквідацыі ўсіх разьбежнасьцяў на другой Сэсыі Сабору Япіскапаў (16 чэрвеня 1981), было пастаноўлена вызначыць для Ўладыкі Мікалая адзін месяц часу для паразуменьня. Аднак да гэтага часу ніякага адказу ад Ул. Мікалая не атрымана, а таму на трэцяй Сэсыі Сабору Япіскапаў было пастаноўлена зацьвердзіць пастановы Сэсыі другога Сабору Япіскапаў аб звальненьні Ўладыкі Мікалая й аб забароне яму выконваць Багаслужбы й усе рэлігійныя трэбы.

*– Кансысторыя БАПЦ –*

## З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

### 35-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ

35-ы Агульны Гадавы З'езд Беларусаў Вялікай Брытаніі адбыўся 16-га травеня, 1981 г., ў Беларускай Бібліятэцы ім. Ф. Скарыны ў Лёндане. Адкрыў З'езд старшыня ўступаючай Галоўнай Управы Сп. Я. Міхалюк. Айцец Ян Пякарскі разпачаў працу З'езду малітвай да Сьв. Кірылы Тураўскага.

Старшыня З'езду прачытаў надасланыя прывітаньні ад Яго Блажэнства Мітрапаліта Андрэя Першагерарха БАПЦ, ад былшага Старшыні ЗБВБ Сп. М. Нікана й іншых. Прыемнасьцю для прысутных было тэлефанічнае прывітаньне ў часе З'езду, з Канады, ад Прэзыдэнта Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіча.

У сваёй справаздачы Сп. Міхалюк казаў, што дзейнасьць беларускай эміграцыі мае поўнае прызнаньне й ацэну на Бацькаўшчыне. ЗБВБ шырока распаўсюдзіла выданыя неафіцыйна на Беларусі дзьве адкрыткі з нагоды 1000 годзьдзя дзяржаўнасьці Беларусі. Пры перaказаньні арыгіналаў была даная такая інструкцыя: „перадайце Беларусам у Лёндане й яны будуць знаць, што з гэтым рабіць."

Новавыбраная Галоўная Ўправа складаецца з наступных: Я. Міхалюк, Старшыня; А. Зданковіч, заст. старшыні; П. Наваро, сакратар; П. Асіповіч, скарбнік; А. Лашук і Я. Сяўковіч, сябры ўправы.

### У Англа-Беларускім Таварыстве

18 чэрвеня 1981 г. адбыўся Гадавы З'езд Ангельска-Беларускага Таварыства ў залі пры Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Таварыства робіць вельмі карысную працу ў папулярызаваньні беларускай справы. Яно выдае навуковы Журнал Беларускіх Студыяў у ангельскай мове. Рэгулярна вядуцца даклады (шэсьць на год) на тэмы беларускай гісторыі, літаратуры й мастацтва.

У новую Ўправу Таварыства былі выбраныя: Джэймс Дінглей, старшыня; а. А. Надсон і Гай дэ Пікрда, заступнікі старшыні; П. Асіповіч, скарбнік; Др. Шырын Акінэр, сакратар; Др. Ліндсэй Гюз, Я. Міхалюк і П. Наваро, сябры Ўправы.

## У Камітэце Паняволеных Народаў у Брадфордзе

Камітэт Паняволеных Народаў у Брадфордзе, да якога належаць Беларусы, Вугорцы, Латышы, Жамойдцы, Эстонцы й Украінцы, выдаў інфармацыйную брашуру у Ангельскай мове на 57 бачын. Шэсьць бачын прысьвечана Беларусі.

## ДА ЛЮДЗЕЙ ДОБРАЕ ВОЛІ

Шукаючы літаратурную спадчыну Хведара Ільляшэвіча, выявілася, што Ільляшэвіч падпісваў свае артыкулы ня толькі сваім іменем і сваімі ведамымі мянюшкамі: М. Дальны, Сьвятаслаў Залужны, Стары Скаўт, але й іншымі. Маем просьбу да тых хто бліжэй супрацоўнічаў з Ільляшэвічам тут на чужыне, паведаміць на паданы ніжэй адрас, калі ведае артыкулы Ільляшэвіча, падпісаныя іншай, як усім ведамай мянюшкай, і дзе яны былі зьмешчаныя.

І яшчэ адна просьба: Хто хоча ўшанаваць Ільляшэвіча сваім успамінам, хай напіша й дашле на той-жа самы адрас, а ўспамін будзе зьмешчаны ў кнізе *Недапетая песьня – жыцьцё й літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча*, якая прыгатаўляецца да выданьня.

Калі хто мае пісьмы Ільляшэвіча, або ягоныя рукапісныя вершы, просім даслаць або арыгінал, або копію, таксама будзе выкарыстанае ў кнізе.

Ушануйма вялікага Змагара за вызваленьне Беларусі,

За дапамогу шчыра дзякуем.

* *

Кнігу можна заказаць у Спадара Жука. Цана кнігі, выданай на стэрэотыпе будзе 25 дал.

Таксама будзе перавыданая на стэрэотыпе гісторыя Беларусі праф. Ігнатоўскага XIX і пачатак XX стагодзьдзяў. Займае 251 стар. і будзе каштаваць 25 дал.

Ужо заказаныя пазалочаныя мэдалі на 1000-годзьдзе Беларусі. Каштуюць 10 дал.

Сьпяшайцеся з заказам, бо ўсе гэтыя выданьні ёсьць малой колькасьці паасобнікаў. Калі й куды перасланць грошы, будзе павядомлена асобна.

Ch. Schuk
Goethestr. 1,
6906 Leimen 3, BDR

# СЬВЕТ ВЕЧНАЙ ПРЫГОЖАСЬЦІ

## МАСТАЦКАЯ ПРОЗА ЎЛАДЗІМЕРА ГЛЫБІННАГА

**Праф. К. Тарасевіч**

*Заканчэньне*
*Пачатак у 31-м нумары*

* * *

Гэрой апавяданьня Гэнрык Шлегель перажыў самыя цяжкія дні сваго жыцьця ў расейскім палоне, пазнаў ува ўсёй глыбіне дабрыню беларускіх сялянаў, іхнюю добразычлівасьць у дачыненьні да чалавека, у тым ліку і да чужынца. У апавяданьні „Сьмерць Гэнрыка Шлегеля"—зварушлівыя сцэны разьвітаньня Шлегеля з людзьмі, з якімі ён пражыў значную частку свайго жыцьця, ростань з Агатай, якая яго палюбіла. Пасьля вызваленьня з палону Шлегель вяртаецца ў родныя мясьціны Бавары. Ужо была бачана ў далячыні ягоная хата. Ён ужо ў думках абымае сваю жонку, але раптам валіцца дагары ад сьмяротнай раны, нанесенай яму ўласьнікам палёў за спробу пакаштаваць рэпу. Факт забойства палоннага за рэпу быў узяты аўтарам з пасьляваеннай газэты ў Мюнхені. Але пісьменьнік дадумаў і давёў выдумку да закончанага сюжэтнага канца. Ён надаў яму рэальных фарбаў і тыповых абставінаў вайсковага й пасьлявайсковага часу. На магчымыя пярэчаньні, што выпадковая сьмерць не заслугоўвае ўвагі пісьменьніка, Глыбінны мог бы спаслацца на сусьветна вядомы твор Льва Талстога „Смерть Ивана Ильича", у якім пісьменьнік не пабаяўся апісаць сьмерць Івана Галавіна ад звычайнай хваробы і нават вынесьці яе ў загаловак твору. Іван Тургенаў у рамане „Отцы и дети" змусіў свайго гэроя Базарава памерці ад тыфусу. Аднак, само апісаньне сьмерці Базарава зьяўляецца мацнейшым мейсцам раману, і чытачу цяжка ўтрымацца ад хваляваньня пры чытаньні рамана. Нешчасьлівы выпадак з Шлегелем у апавяданьні Глыбіннага, што спыніў жыцьцё гэроя якраз напярэдадні ягонага поўнага перавыхаваньня і адраджэньня ў ім сапраўднага чалавека, падкрэсьлівае, што яшчэ не пераможаны ў прыродзе чалавечай тыя цёмныя сілы, якія стаяць на перашкодзе да сьветлых мэтаў будучыні. Але Гэнрык Шлегель незадоўга перад сваёй сьмерцяй знайшоў у сабе досыць сілаў, каб адмовіцца ад забабонаў у дачыненьні да славянскіх народаў. Шлегель стараўся перамагчы іх, ён зжыўся з паляшукамі і пераняў іхнюю чалавечнасьць, пераняў дзе-што нават з іх культуры. Усё гэта памастацку выявіла магчымасьці агульначалавечага яднаньня. Няўдача ж у ажыцяўленьні Гэнрыкавых мараў і сумны канец яшчэ больш настройвае чытача ці наводзіць на думку аб неабходнасьці аб'яднаньня ўсіх сілаў чалавецтва ў змаганьні за сьветлыя ідэялы, аб стварэньні на зямлі такіх умоваў, пры якіх чалавек пераможа зьвера ў сабе і стануць немагчымымі здарэньні, што знайшлі сваё адэкватнае адлюстраваньне ў мастацкіх вобразах высокароднага апавяданьня Ўладзімера Глыбіннага.

У апавяданьні „Пётра Абуховіч, Рывэр-сайдзкі мрыйнік" маецца багаты падтэкст і вобразна выяўлены ўнутраны канфлікт рамантыка, што шукае сэнсу вечнай красы ў Божым цудзе блакітнага небасхіла над ім. Пётра Абуховіч наглядае за палётам шпакоў на захадзе сонца над Гудзонам у Нью-Ерку і знаходзіць асабліваe мастацтва ў фігурах, якія робяць шпакі штодня ў адзін і той жа час перад сканчэньнем дня па сваім звароце з штодзённых палётаў на мейсца начлегу. Рывэрсайдзкаму мрыйніку супрацьстаіць чалавек закасьнелай душы, якому адно даляравыя інтарэсы і зразумелыя. Асуджаецца ягонае фарысейства і няздольнасьць бачыць тое, што людзі створаны не для задавальненьня жывата, не адным хлебам надзённым жывуць, што не колькасьцяй даляраў вымяраюцца духовыя каштоўнасьці чалавека. Ёсьць яшчэ духовыя запатрабаваньні, неабходнасьць ідэялу духовых пошукаў і задавальненьня духовых патрэбаў. Пошукам вечнай духовай прыгожасьці і прысьвечана апавяданьне пра Пётру Абуховіча. У ім маецца моцнае апісаньне гвалту над прыродай і ўнутраны пратэст супраць яго. Гэта адчуваецца ў паказе падрэзаных дрэваў на бульварах, якія ўсё новымі гучкамі перамагаюць гэты гвалт, у вобразах непераможных тэхнікай і цывілізацыяй заходах сонца за Гудзонам, што так цэняцца гэроям-рамантыкам у штодзённых пагулянках уздоўж Рывэр-сайдзкіх бульвараў.

Канфлікт Пётры Абуховіча-рамантыка і другога гэроя – Гадкоўскага, які адно выцягвае даляры і страціў здольнасьць бачыць прыгожасьць сьвету, завяршаецца перамогай першага. Вечная мудрасьць, што чалавек можа цэлы сьвет матар'яльных каштоўнасьцяў здабыць, але пры гэтым пагубіць сябе, як непаўторную асобу з сваімі вартасьцямі, тут набывае глыбокага сэнсу. Гадкоўскі ў пагоні за далярам траціць душу, адзіную крыніцу духовых каштоўнасьцяў. Ідэёвы сэнс апавяданьня „Пётра Абуховіч, Рывэр-сайдзкі мрыйнік" добра разумеўся чытачом. З далёкага Рыму за гэтае апавяданьне прыйшло „пяруновае БРАВА!" ад даст. а. Ксяндза Пётры Татарыновіча ў лісьце ад 1-га красавіка 1965 г.

У апавяданьні „Трывога ў лесе" паказаны Адырандакскія прыгоды гэроя на паляваньні, але гэрой выходзіць на паляваньне не для забойства жывёлаў, а для яднаньня з прыродай. Стрэльба ў яго руках адно для апраўданьня хады ў лес. Па сутнасьці, гэроя вядзе ў лес неперааадольнае жаданьне панаглядаць за зьявамі прыроды і глыбей пранікнуць у ейныя тайны. Уначы ён чытае ў лесе вершы любімага паэты Максіма Багдановіча, любуецца зоркай-Вэнэрай і цешыць вока прыгожасьцяй Божага стварэньня. І ўсё гэта служыць адпачынку і ратаваньню ад сучаснай мэханізацыі жыцьця, зьяўляецца душнікам і разрадкай ад залішняга напружаньня людзей гораду. Малюючы жорсткасьць сьмерці, аўтар сьцьвярджае непераможнасьць вечнага жыцьця і перамогу апошняга над сьмерцяй і зьнішчэньнем. Гэта патас змаганьня за высокія добрародныя ідэялы чалавецтва.

У аповесьці „Каханьне Ліны Бэрн" пісьменьнік адгукаецца на заклік душы шукаць увасабленьня чалавечай дасканаласьці. Падобна старажытным Грэкам, якія далі ўзор скульптурнагаператварэньня чалавечай прыгожасьці, тут выяўляецца пошук рэальнага вобраза маладой прыгожасьці з усімі свомымі чалавеку жарсьцямі і захапленьнямі.

Некалькі гадоў таму назад паміж У. Глыбінным і беларускім Архіяпіскапам Васілём, памёрлым пазьней, завязалася ліставаньне адносна тлумачэньня філязофскага сэнсу твораў, што ўвайшлі ў зборнік „На берагох пад сонцам". Тады Ўладыка Васіль выказаўся, што яны прасякнутыя філязофіяй Сьпінозы. Уладыка бачыў гэтую філязофію ў замілаванасьці да прыроды і сьхільнасьці шукаць у прыродзе Бога не як асобу Хрыста, а як вышэйшую сілу, што ўсё ажыўляе, творыць і падтрымвае жыцьцё. „З Вашых твораў, – пісаў Уладыка, – на кожным кроку бачны Сьпіноза".[12] У процілегласьць пантэізму Ўладыка зьвярнуў увагу пісьменьніка на неабходнасьць лучнасьці з Богам, ак Асобаю, якая сваім Сьвятым Духам і Асобаю ажыўляе, натхняе, творыць цуды і падымае нас да нябесных вышыняў, робіць нас чалавекам, падобным да вобраза Хрыста. Да прыгажосьці, гармоніі і дасканаласьці можна прыйсьці адно праз ідэял самой асобы Бога, асобы Хрыста – ўвасабленьня і прыгажосьці, і любові, і дасканаласьці. Уладыка заклікаў пісьменьніка выйсьці насустрач гэтаму сьвятлу і зрабіць яго сьвятлом для многіх іншых. Уладыка заклікаў спатрэбіць на дабро вылучны дар слова, які быў дадзены Богам пісьменьніку. Угледзіўшы ў аснове творчасьці Ўладзімера Глыбіннага ідэю любові, Уладыка заклікаў узьняць яе на ўзвышша той любові, якая зьяўляецца сутнасьцяй Бога. Неба можа быць і на зямлі, у душы кожнага чалавека, розум каторага стаў мудрасьцяй, як праявай Бога ў нас саміх.

У адказным лісьце да Ўладыкі Ўладзімер Глыбінны прызнаў сваю недасканаласьць у сэнсе недастаткоавай рэлігійнасьці. Пры гэтым зьвярнуў увагу на тое, што на яго куды больш ўплыў сваім часам зрабіў нямецкі філёзаф Эммануіл Кант з яго катэгарычным імпэратывам і ідэялам дасканалай красы. Але ў сваіх творах Глыбінны больш выходзіць з свайго собскага дазнаньня. Веданьне ж сусьветнай культуры яму дапамагае знаходзіць адэкватныя формы для выяўленьня агульначалавечай тэматыкі і зьместу. Калі пантэізм разглядае прыроду, як увасабленьне самой Боскасьці, дык для Глыбіннага сама прырода зьяўляецца адно творам ці стварэньнем Божай сілы. Над ёю ўзвышаецца Ўсявышэйшы, які на зямлі ўвасобіўся ў вобраз Бога-Чалавека Хрыста. Пісьменьнік лічыў, што ён не называў апошняга паводле імя, але Хрыстовыя ідэялы прыгожасьці, любові, гармоніі і красы, як і дасканаласьці, дабра і добразычлівасьці, зьяўляюцца і ягонымі ідэяламі. У гэтым сэньсе Глыбінны насьледуе запаветы, пакінутыя вялікім пісьменьнікам беларускага паходжаньня, Хведара Дастаеўскага, што Хрыстос зьяўляецца вышэйшым ідэялам ува ўсім сьвеце, ува ўсе вякі і эпохі. Пісьменьнік піша аб духовай прыродзе чалавека і пошуках хлеба нябеснага, г.зн. хлеба для душы, што адзін толькі і складае вечныя каштоўнасьці, якія ня гінуць у лёце часу. Такім чынам, набліжаючысь да вечнага, непераходнага ў часе, да ўсяго, што натхняе і ўзвышае над часам, узыходзячы на ўзвышшы, якія ўжо адчуваліся ранейшымі ўзвышэнцамі, Глыбінны зьявіўся вартым прадаўжальнікам лепшых традыцый беларускай і сусьветнай літаратуры.

На вялікі жаль, У. Глыбіннаму прышлося працягваць гэтыя традыцыі ў цяжкіх умовах выгнаньня з роднага краю, адсутнасьці масавага чытача і выдавецтваў. Але, з іншага боку, умовы паўнейшай свабоды творчасьці і адсутнасьці ідэялёгічных ці якіх іншых забаронаў у вольнай Амэрыцы спрыяе таму, што кажнае слова твораў эміграцкага пісьменьніка выходзіць з самае глыбіні душы і гарачага сэрца і падказваецца сапраўдным гарэньнем. Таму ўсе творы Глыбіннага загранічнага пэрыяду не маглі быць ненапісанымі, яны настойліва патрабавалі выяўленьня на паперы і ўладна вымагалі замацаваньня друкарскім станком. Такім творчым учынкам быў выхад не адно зборніка „На берагох пад сонцам", але і выхад кнігі Ўладзімера Глыбіннага *НА СЬВЯТОЙ ЗЯМЛІ*[13] і кнігі цікавых і глыбокіх успамінаў і роздуму пра паэта Язэпа Пушчу.[14]

Увосень і ўзімку 1980–1981 г. Уладзімер Глыбінны перажыў надзвычайны творчы ўздым, нешта накшталт Пушкінскай Болдзінскай восені, калі паэта напісаў больш твораў, чымся за гады мітусьлівага жыцьця. У сьнежні-студзені пісьменьнік напісаў аповесьць з жыцьця Максіма Багдановіча, а ў лютымсакавіку 1981 году Глыбіннаму ўдалося закончыць раман, распачаты яшчэ ў 1951 г. – *ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ*. Невялікі раман ці аповесьць пра Максіма Багдановіча малюе прыезд паэты ў Вільню ўлетку 1911 г. у рэдакцыю „Нашай Нівы", сустрэчы і доўгія размовы з закладнікамі нашаніўскага адраджэньня, рэдактарамі газэты, Вацлавам Ластоўскім, Іванам і Антонам Луцкевічамі і Аляксандрам Уласавым. У Савецкай Беларусі аб іх немагчыма гаварыць аб'ектыўна, бо яны разглядаюцца нацыяналістымі. Вялікае ўражаньне, якое яны зрабілі на Багдановіча, там разглядаецца, як уплыў нацыяналістых і таму падлягае змоўчаньню. Таксама абыходзіцца бадай што маўчаньнем і жыцьцё Багдановіча на вёсцы Ракуцёўшчына, дзе ён жыў улетку 1911 г. у дзядзькі Антона Луцкевіча ў фальварку і дзе запазнаўся добра з жыцьцём вясковага люду і пазнаёміўся з народнай творчасьцяй і мовай. У аповесьці пра Багдановіча *ПАД ЛЕБЯДЗІНЫМ ЗНАКАМ* ёсьць тры разьдзелы: (1) Там, дзе плывуць берагі Вяльлі; (2) За плыньню Ушы, за хвалістымі ўзгоркамі; (3) Пад знакам лебедзя. Першы і трэці разьдзелы прысьвечаны Віленскім адведзінам паэты. У ім Багдановіч вядзе доўгія начныя бяседы з Вацлавам Ластоўскім аб беларускім мінулым і сучасным, шпацыруе па Вільні, адведвае беларускі музэй Івана Луцкевіча, захапляецца ба-

*(працяг на 8-й бачынцы)*

# Некалькі Слоў Пра „Службоўнік”

## РЭЦЭНЗЫЯ НА

„Службоўнік” Апрацаваны Архіяпіскапам Мікалаям з удзелам выдавецтва „Пагоня”

Як кожнае выданьне ў беларускай мове належыць толькі прывітаць, калі яно адказвае свайму прадазначэньню й пераклад не пярэчыць арыгіналу ды няма моўных недакладнасьцяў, чаго аднак не датрымана ў перакладзе Служэбніка.

Ужо зьмена самога назову Служэбнік на „Службоўнік” ёсьць неадказнаю, бо Служэбнік ня ёсьць расейскага паходжаньня, а царкоўна-славянскага. Паходзіць ад слова служыць і азначае адзін з назоваў літургічнае кнігі, якая ўжываецца ўжо на працягу стагодзьдзяў, а „Службоўнік” ёсьць новатворам не адказваючым граматычным правілам. Ня можам-жа сказаць „я службоўшю” ці „я буду службовіць”, а гаворым „я служу” ці „я буду служыць”.

Не адказвае праўдзе й той факт, як напісана ў прадмове да „Службоўніка”, што быццам „Службоўнік” ёсьць першым у гісторыі нашага народу, бо ведама, што Служэбнікі ўжо выдаваліся Віленскім Праваслаўным Брацтвам у 1583, 1598 і 1617 г.г. Друкаваліся яны ў друкарні Мамонічаў у Вільні тагачаснаю моваю для ўжытку ў цэрквах. Выдаваліся Служэбнікі й на эміграцыі ратлатарным спосабам.

На першай балонцы „Службоўніка” напісана, што „*Службоўнік* добраславіў Архіяпіскап Мікалай з удзелам выдавецтва *Пагоня*”, а на балонцы 4-й бачым ужо падпісаны не Архіяпіскап, а Яр-хіяпіскап. Слова Яр азначае Кручу. Ці-ж можна такім спосабам мяняць самое значэньне слова Архіяпіскап, якое ёсьць грэцкага паходжаньня, азначае вышэйшы чын і прынятае ўсімі Праваслаўнымі Цэрквамі. Выказана самавольле й пры багаславенстве „Службоўніка” папершае тое, што Архіяпіскап Мікалай багаслаўляючы прысабечыў права „цэнзара” на што ніхто яго не ўпаважняў, а падругое, што „даб расла ўленьне” зроблена з удзелам сьвецкае арганізацыі „Пагоня”, што пярэчыць царкоўным правілам і дапушчальна ўчынена для падарваньня аўтарытэту БАПЦарквы.

Слова Дар, якое ёсьць грэцкага паходжаньня й азначае прынашэньне ў „Службоўніку” перакладзена на „Ахвяры”, якое ў данным выпадку ня можа быць прынятым. У беларускай мове слова Дар ужываецца вельмі часта. Напрыклад гаворыцца: Дар Гожы, дар красамоўства, дар слова, дар за дар, а дарма нічога, а таму няма ніякае патрэбы яго зьмяняць.

Зусім не намесцы зьмешчаны напачатку „Службоўніка” дадатак „Трэба ведаць”, чаго няма ні ў адным з Служэбнікаў, бо такі дадатак належыць да асобнага выданьня, а не Служэбніка.

Не захованая пасьлядоўнасьць у ўжываньні слоў таго самага значэньня як напрыклад: на балонцы 27 „Службоўніка” напісана слова сьвячэньнік, якое ёсьць няўдалым новатворам з расейскае мовы й паходзіць ад слова священнік з заменаю літары „щ” на „ч”, а на балонцы 36 напісана ярэй, а на 48-й сьвятар, што пярэчыць тэрміналёгічнаму правілу.

Уведзена шмат слоў чужых, якія не ўжываюцца ў Праваслаўных Багаслужбах, падобных да слова „жагнаць”, якое ўзята з нямецкае мовы „зэгэн”, у беларускую мову не ўвайшло, а таму й ня можа замяняць слова хрысьціць, якое спалучана са знакам крыжа. Ня гаворыцца-ж трэба жагнаць дзіця, а трэба ахрысьціць дзіця.

Замест слова „экценьня” ўжыта слова „літаньне”. І тут перакладальнікі ня ведалі або зусім не цікавіліся значэньнем гэтых слоў. Экценьня азначае працяглае або доўгае маленьне, а літаньне азначае агульнае маленьне, якое адбываецца ў прытворы царквы або ў полі на адкрытым месцы, каб усе прысутныя маглі прыняць удзел у маленьні.

Царкоўна-славянскае слова „благочестивый” перакладзена на „сьвятабліві”, якое не беларускага паходжаньня й з устаўкаю пасярэдзіне слова літары „е” будзе мець вульгарнае значэньне.

Тут падаецца толькі некалькі чужых слоў і новатвораў, якімі перапоўнены „Службоўнік”, а іх ужыта вельмі шмат. Апрача гэтага ўвесь пераклад „Службоўніка” ня згодны з арыгіналам. Мова ня ёсьць гарманічнаю й няпрыгоднаю для сьпеву.

Найбольшыя хібы заўважаны й у перакладзе трапароў, пракіменаў і псальмаў, якія ня толькі няпрыгодныя да сьпеву, але зьмест пасьля перакладу ня згодны з царкоўна-славянскім, ні з іншамоўнымі служэбнікамі.

Для прыкладу возьмем адзін з псальмаў. (Верш 8, 131 псальму). Згодна царкоўна-славянскае мовы зьмест гэтага вершу наступны: „Воскресі, Господи, в покой Твой, Ты і Кивот Сьвятыни Твоея”. У „Службоўніку” гэты верш перакладзены так: „Устань, Госпадзі, на супачынак Свой, Ты й скрыня сілы Твае”. („Службоўнік”, заўважаныя памылкі, пс.131–132:II). У перакладзе гэтага кароткага вершу ёсьць абсалютная хібнасьць пры замене Ківот на скрыню, а сьвятасьць на сілу, што зусім пярэчыць тэксту й сьветчыць аб няведаньні перакладальнікамі тэалягічнае тэрміналёгіі. Ківот-жа або Каўчэг Запавету азначае ня скрыню якою мераецца ня сіла, а толькі збожа, пясок або іншыя рэчы, а Ківот быў дарагім сакрамэнтам сьвятыні Скінія, дзе перахоўваліся Скрыжалі Запавету, Чаша з маннаю й Жазло Арона й азначаў месца пабыту Хрыста пасьля Ўшэсьця на неба.

Падобнымі недакладнасьцямі перапоўнены ўвесь „Службоўнік”, а таму на Саборы Япіскапаў было пастаноўлена забараніць сьвятаром карыстацца гэтым „Службоўнікам”.

– *Кансысторыя БАПЦ*

# Сьвет Вечнай Прыгожасьці

*(працяг з 7-й бачынкі)*

гацьцямі мінулай культуры беларускага народу ў Вялікім Княстве Літоўскім, выказвае глыбокую веру ў будучыню беларускага адраджэньня. Вацлаў Ластоўскі і іншыя сябры „Нашай Нівы” былі глыбака ўражаны, як Багдановіч глыбей сягаў думкаю ў беларускую будучыню і пэрспэктывы адраджэньня. У рамане *ПАД ЛЕБЯДЗІНЫМ ЗНАКАМ* таксама ў вобразнай форме малюецца гісторыя выданьня зборніка вершаў „Вянок” і роля ў гэтым Антона Луцкевіча, як і Вацлава Ластоўскага. Назоў твору дадзены ў згодзе з знакам лебедзя, што быў зьмешчаны на агалоўнай бачыне „Вянка” і азначаў гэрб Завішаў у гонар Магдалены Радзівіл, з дому Завішанка, якая ахвяравала грошы на выданьне беларускіх кніг. Выбар тога знаку, як і назоў зборніка, належыць гонару Вацлава Ластоўскага.

Закончаны надоечы раман *ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ* становіць найвышэйшае дасягненьне Ўладзімера Глыбіннага. Раман прысьвечаны долі беларускага інтэлігента Канстанцыя, якога лёс закідае ў каменныя лёхі савецкае турмы, затым вызвалае шляхам уцёкаў з пешага этапу ў першыя дні вайны, заносіць у Менск, затым у акупаваную Немцамі Рыгу, заносіць у Прагу-Чэскую, затым у Нямеччыну, нарэшце ўжо жанатым чалавекам з сям'ёю завозіць у краіну Вышынгтона, дзе, нарэшце, гэрой набывае сапраўдную свабоду сваёй дзейнасьці. Раман пабудаваны вакол стрыжнёвага вобразу Канстанцыя, які праз прызму свайго сьветаўспрыйманьня прапушчае складаныя падзеі гісторыі, вайны, акупацыі, перамяшчэньня ў Эўропу і затым у Амэрыку. У рамане знайшлі свой адбітак і дзейнасьць беларускага нацыянальнага актыву ў часе акупацыі, і забойчая палітыка акупацыйных уладаў, і забойства Гаўляйтара Кубэ, і дні Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, калі Менск кароткі час быў пад беларускім белчырвона-белым сьцягам. Знадворныя падзеі гісторыі, прапушчаныя праз люстра душы моцнае асобы Канстанцага, асьвятляюцца ў рамане ў новым сьвятле. Яны набываюць нязнаны да таго сэнс і заблісцаелі новымі мастацкімі адценьнямі. Фактычныя падзеі нібыта ўпяршыню ўбачаныя гэроем і таму выклікаюць новае бачаньне. Паказ гістарычных падзеяў вяртае чытачу асобнае перажываньне іх, дае магчымасьць убачыць тое, што яшчэ нікім ня было ўбачана. Рэчаіснасьць паказваецца гэтак, каб поўнасьцю аднавіць яе для больш поўнага адчуваньня яе. Словам, робіцца так званае ў літаратуразнаўстве „остранение” дзіўна ўбачанай рэчаіснасьці ў імя яе сьвежасьці і істотнасьці.

Усе мастацкія творы Ўладзімера Глыбіннага – гэта частка высокароднай душы чалавечай, адлюстраваньне ўнутранага сьвету. Праз іх беларуская мастацкая дыяспара становіцца часткаю сусьветнага творчага працэсу. Да яго належыць, як неадлучная частка, і Ўладзімер Глыбінны з ягонай творчасьцяй.

---

[11]). З ліста даст. а. прэлата Пётры Татарыновіча з Рыму Ўладзімеру Глыбіннаму ад 1 красавіка 1965 г.

[12]). Ліст Архіяпіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Ўладыкі Васіля ад 17 сьнежня 1964 г. Уладзімеру Глыбіннаму з Нью-Ерку. Архіў Уладзімера Глыбіннага, г. Трой, Н.Е. Папка: Карэспандэнцыя 1964 г.

[13]). Уладзімер Глыбінны. *НА СЬВЯТОЙ ЗЯМЛІ.* Выдавецтва „Божым Шляхам”, Лёндан, 1972 г., 119 бач.

[14]). Уладзімер Глыбінны. *ПАЭТА З БОЖАЙ ЛАСКІ.* Успамін і роздум пра Язэпу Пушчу. (1902–1964). Нью-Ерк, 1979, 132 бач.

---

## ПАПРАЎКІ

У артыкуле *Сьвет вечнай прыгожасьці* (ЧАС №31, 1981) дапушчаныя наступныя памылкі друку:

Карыстаем скарот: тр.= трэба; ндр.= надрукавана.

*У першай калёнцы. Тр.* „з рамантыкай вандраваньняў”, *ндр.* „уандраваньняў”. *Тр.* „вузка-эгаістычнага інтарэса”, *ндр.* „вуска-эгаістычнага”.

*У другой калёнцы. Тр.* „адценьні”, *ндр.* „адцені”. *Тр.* „Я. Ляшчына вылучыў мастацкае наватарства”, *ндр.* „вучыў”. *Тр.* „нясьцерпна-балючы камель”, *ндр.* „камень”.

*У ангельскай вытрымцы. Тр.* “the difficulties and joys”, *ндр.* “jous”.

*У трэцяй калёнцы. Тр.* „узаемаадносіны чалавека к Божаму твору”, *ндр.* „узаемаадносінай”. *Тр.* „оўвертаймаў”, *ндр.* „оўветраймаў”. *Тр.* „Ёсьць сьвежыя параўнаньні”, *ндр.* „параўненьні”.

*У чацьвёртай калёнцы. Тр.* „разнастайная”, *ндр.* „разнастаайная”. *Тр.* „што лёс пазбавіў”, *ндр.* „штл”. *Тр.* „І калькі-б ты ні прывыкаў”, *ндр.* бяз „ні”.

*У працягу. Тр.* „на балонках газэты”, *ндр.* „на бялонках”. *Тр.* „саміх”, *ндр.* „сваіх”. *Тр.* „не павінна быць чужым”, *ндр.* „чыжым”.

Таксама ў зносках у назове энцыклапэдыі прапушчана слова Writers. Там жа ў зносках *тр.* „Я. Ляшчына”, *ндр.* „Я. Ляшчынка”.

# Law 86-90

(continued from page 2)

likes Russians as long as they are not Communists and will support a big-nation status for Russia after the fall of the Communist regime in Moscow. This also means that the State Deparment does not wish to be bothered with Byelorussians because freedom for Byelorussia means dismemberment of the Russian empire and that, in the State Department's view, is "rocking the boat too much."

Still, the interplay of these and other forces and of those which have not yet emerged can not be predicted with any certainty. It is possible, that American wishes will be as irrelevant to the outcome of political settlements in Eastern Europe after the fall of Communist Russia as they had been in places like Iran and South East Asia.